**№71 (1634)**

Пятніца, 18 красавіка 2003 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою…*

**Якуб Колас**

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння чакаецца: удзень — +10...+12, уначы — +2...+4; у Брэсце ўдзень — +12...+14, уначы — +4...+6; у Гродне ўдзень — +11...+13, дождж, уначы — +3...+5; у Віцебску ўдзень — +10...+12, уначы — +1...+3; у Гомелі ўдзень — +11...+12, уначы — +2...+4; у Магілёве ўдзень — +10...+12, уначы — +1...+3.

На астатняй тэрыторыі краіны малавоблачнае, без ападкаў надвор'е.

*www.meteo.by*



# Обращение



**Уважаемые граждане, товарищи офицеры и прапорщики запаса!**

Всю свою сознательную жизнь, 35 лет, я провел среди вас. Моя лейтенантская юность прошла в Борисовской 7-й армии. В 1993—1994 годах служил в Бобруйском 5-м армейском корпусе. Потом шесть лет командовал Гродненским 28-м армейским корпусом. В 2000 году стал депутатом белорусского парламента.

Я всегда рад встречам с бывшими однополчанами. По-разному сложилась их судьба в это смутное время. Особенно горько и обидно, когда слышу, что многие мои сослуживцы оказались за бортом жизни. Кто-то попал под сокращение, кого-то уволили в запас по выслуге лет, кто-то не угодил начальству и, столкнувшись с бесправием, вынужден был уйти. Опытные, полные сил и энергии люди стали лишними в нашем государстве.

Но ведь лучшие годы своей жизни вы отдали служению Отчизне. Мотаясь по глухим гарнизонам, военным городкам, заставам и точкам. Перевозя с собой семьи и нехитрый скарб, каждый раз начинали "казенную" жизнь с нуля. Но в ваших сердцах не угасала надежда, что когда-нибудь это кончится. Для многих она оказалась несбыточной — сотни военнослужащих по сей день не имеют, как говорится, ни кола, ни двора и вынуждены ютиться по чужим углам. Нередко из-за социальной неустроенности их семьи распадаются.

Повезло тем, кто сумел организовать собственное дело и привлек к этому бывших сослуживцев. Но таких — раз два и обчелся. Чаще всего офицеры, окончившие престижные учебные заведения, имеющие не одно, а несколько высших образований, работают диспетчерами, курьерами, охранниками, сторожами... Другие, чтобы хоть как-то прокормить семью, стоят на рынках рядом с такими же бедолагами — учителями, врачами, инженерами... Не лучшее положение у офицеров запаса МВД, КГБ, других силовых структур.

Меня, как и моих коллег по депутатской группе "Республика", возмущает такое безразличное, унизительное отношение к людям. Мы не согласны с существующей в стране социальной политикой, которая поставила белорусский народ на грань выживания. Так жить нельзя!

Для того чтобы сообща защищать конституционное право наших граждан на достойный уровень жизни, мы решили создать широкое общественное движение **"Союз граждан за лучшую жизнь"**. Председателем оргкомитета движения выбрали меня. Мы искренне рассчитываем на ваш опыт, моральную и организационную поддержку.

Сегодня депутатов, которые отстаивают законные интересы своих избирателей, верховная власть пытается оклеветать и запугать. Но мы, как и сотни тысяч соотечественников, давно выдавили из себя раба. Возврата к временам сталинского геноцида не будет! Бояться следует тем, кто ведет наш народ к беспросветной нищете и бесправию.

Присоединяйтесь к нашему общему с вами делу. Присоединяйтесь к общественному движению "Союз граждан за лучшую жизнь".

С уважением,

**Валерий ФРОЛОВ,**
**депутат Палаты представителей,**
**генерал.**

ПУЛЬС

## Кампенсацыі правапераемнікам остарбайтараў

Беларускі рэспубліканскі фонд "Узаемапаразуменне і паяднанне" пачаў выплату кампенсацый правапераемнікам былых вязняў прымусовай працы перыяду Другой сусветнай вайны.

Як паведаміў БелаПАН намеснік старшыні праўлення фонду Канстанцін Прахарэнка, згодна з законам ФРГ аб дзяржаўна-прамысловым фондзе "Памяць, адказнасць і будучыня", правапераемнікі маюць права на атрыманне выплат толькі ў тым выпадку, калі былы остарбайтар памёр пасля 16 лютага 1999 года і яго правапераемнікі падалі заяву на кампенсацыю на працягу шасці месяцаў пасля яго смерці.

Паводле слоў К.Прахарэнкі, у Беларусі налічваецца амаль 20 тысяч правапераемнікаў былых остарбайтараў, якім будуць выплачаны грашовыя кампенсацыі за выкарыстанне нацыстамі іх прымусовай працы.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Невушаву пакінулі 4 гады

Кропка пастаўлена ў крымінальнай справе былога старшыні Віцебскага гарвыканкама, а затым — дырэктара замежнага прадпрыемства "Вітэла" Валерыя Невушава.

Калегія па крымінальных справах Віцебскага абласнога суда, разгледзеўшы касацыйныя скаргі на прыгавор Першамайскага раённага суда, які тры месяцы таму вызначыў Невушаву пакаранне ў выглядзе чатырохгадовага зняволення ў калоніі строгага рэжыму, пакінула прыгавор без змен.

Адвакаты Невушава маюць намер абскардзіць і гэтае рашэнне ў больш высокай судовай інстанцыі.

## Варвары ў лесе

Адразу некалькі крымінальных спраў сталі вынікам праверкі, якую зрабілі рэвізоры Дзяржкантролю ў Суражскім лясгасе Віцебскага раёна. Кантралёры выявілі шматлікія парушэнні фінансава-гаспадарчай дзейнасці, у тым ліку — незаконныя высечкі лесу і прыпіскі аб'ёму работ.

Ненарматыўныя, варварскія высечкі ахоплівалі буйныя масівы лепшага лесу. У прыватнасці, на шасці ўчастках высечана каля 800 кубаметраў каштоўных дрэў, у тым ліку — 600 "кубоў" дзелавой драўніны на 26,3 мільёна рублёў.

Замест таго каб пільна выконваць план догляду маладых пасадак, кіраўніцтва лясгаса займалася распродажам сталага лесу. Затое былі складзены фальшывыя дакументы аб перавыкананні планаў, у выніку чаго работнікам лясгаса, у тым ліку і кіраўнікам, выплачана каля 2 мільёнаў рублёў прэміі.

Лясгас незаконна прадаў 4,5 гектара лесасечнага фонду кааператыву "Цэмент", не зважаючы на тое, што гэты фонд уваходзіць у зялёную зону Віцебска. Больш таго, прададзеныя дрэвы не дасягнулі пэўнага ўзросту.

Непамерна вялікая колькасць каштоўных піламатэрыялаў аддадзена камерцыйнай фірме за аўтакран, які аказаўся разукамплектаваным і не адпрацаваў у лясгасе ніводнага дня.

У ходзе праверкі выявілася нястача 12 адзінак тэхнікі, у тым ліку — некалькіх трактароў. Кантралёры спадзяюцца, што апошняе слова ў гэтай непрывабнай гісторыі скажа суд.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## У государства в заложниках

*По решению Всемирной организации здравоохранения день 17 апреля объявлен Международным Днем гемофилии*

Белорусская ассоциация больных гемофилией отметила 17 апреля пикетированием в минском парке Дружбы народов. Акция эта, по мнению участников, должна привлечь внимание общественности к людям с этим тяжелым генетическим заболеванием — несвертываемостью крови.

— Гемофилия неизлечима, но ее проявление можно предотвращать с помощью специальных, очень дорогих препаратов, которые отдельные больные не в состоянии купить, — сказал президент Ассоциации Вячеслав Горбунов, — поэтому наша жизнь и судьба в руках государства. Во всем мире гемофилия признана социальным заболеванием, именно на государстве лежит ответственность за этих больных. Но Министерство здравоохранения Беларуси вдвое сократило закупки специальных антигемофильных факторов свертывания крови VIII и IX, и мы, по сути дела, оказались в заложниках у государства".

Подробности о проблемах больных гемофилией читайте в одном из следующих номеров газеты.

ТЭЛЕМОСТ

# Пакрокавая дэмакратыя

## У Беларусі ЗША будуць чакаць пазітыўных змен, а ў Іраку шукаць беларускую зброю

*У інфармацыйным цэнтры амбасады ЗША ў Мінску прайшоў тэлемост для журналістаў намесніка памочніка дзяржаўнага сакратара ЗША па справах Еўропы і Еўразіі Стывена ПАЙФЕРА. З першай хвіліны сустрэчы амерыканскі чыноўнік паведаміў прысутным, што з моманту яго папярэдняга візіту ў Мінск у жніўні 2002 года "аніякіх пазітыўных змен у беларуска-амерыканскіх стасунках" амерыканскім бокам зноў не заўважана.*

Нечаканы крок Дзярждэпартамента ЗША насустрач беларускім уладам, які выявіўся ў адмене візавых санкцый для вышэйшых беларускіх чыноўнікаў у адказ на вяртанне ў Мінск місіі АБСЕ, Пайфер патлумачыў новай пакрокавай стратэгіяй Дзярждэпа, якая, на яго думку, будзе працаваць і надалей. Пры гэтым Пайфер адзначыў, што амерыканскі бок "так і не ўбачыў з боку ўрада Аляксандра Лукашэнкі нейкай гатоўнасці адказаць на гэтую прапанову".

Стывен Пайфер пазітыўна ацаніў перспектывы прыняцця ў бліжэйшы час амерыканскім Кангрэсам вядомага дакумента, які тычыцца Беларусі: *"Акт аб дэмакратыі ў Беларусі мае вялікую падтрымку ў Кангрэсе, якая адлюстроўвае вельмі глыбокую занепакоенасць тым, што Беларусь праз свой выбар, праз унутраную палітычную сітуацыю ізаліравала сябе ад Еўропы. Таму мае чаканні гэткія: напэўна, Акт мае вельмі добры шанец прайсці".*

Дарэчы, гэты дакумент, згодна з заявай амерыканскага чыноўніка, прадугледжвае "дадатковую падтрымку дзейнасці па развіцці дэмакратыі ў краіне, у тым ліку падтрымку недзяржаўных аб'яднанняў, незалежных СМІ, садзейнічанне ў правядзенні свабодных і сумленных парламенцкіх выбараў у 2004 годзе, а таксама арганізацыю радыё- і тэлевяшчання на Беларусь".

Прадстаўніца тэлеканала АНТ, якая прысутнічала на тэлемосце, выказала думку, што 40 мільёнаў долараў, якія, магчыма, выдзяляць Злучаныя Штаты на прасоўванне дэмакратычных каштоўнасцяў у Беларусі, "як гэта было ўжо раней, раскрадуць". Сп. Пайфер крытычна аднёсся да такога меркавання: *"...Мы стараемся працаваць вельмі асцярожна, і мы задаволены тым, як нашы праграмы рэалізуюцца ў Беларусі".* ЗША, згодна са словамі С.Пайфера, прапаноўваюць сваім беларускім партнёрам тэхнічную дапамогу, абсталяванне, магчымасці для павышэння кваліфікацыі і ўдзелу ў праграмах абмену.

Амбасадар ЗША Майкл Козак, які таксама прысутнічаў на тэлемосце, дадаў: *"Тыя, хто сцвярджае, што грошы былі скрадзены, або самі не ведаюць, аб чым гавораць, або наўмысна гавораць няпраўду".* Паводле слоў амбасадара, *"мы можам аплаціць аўтобусны білет для паездкі на канферэнцыю або пачаставаць удзельнікаў канферэнцыі кубкам кавы, але мы нікому не выдаем наяўных грошай, якія могуць быць выкарыстаны не па прызначэнні".*




Дарэчы, у сераду ўвечары ў адпаведным рэпартажы АНТ гэтыя словы былі старанна выразаны. Вось вам і аб'ектыўнасць беларускага тэлебачання! Паказваем толькі тое, што патрэбна для абалваньвання людзей, не паказваем тое, што адкрывае вочы людзям...

На пытанне Радыё "Свабода", ці знайшлі амерыканскія вайскоўцы ў Іраку зброю беларускага паходжання, намеснік памочніка дзяржаўнага сакратара ЗША адказаў так: *"Найперш вы мусіце зразумець прыярытэты амерыканскіх і кааліцыйных вайсковых сіл у Іраку. Першым прыярытэтам было, вядома, перамагчы іракскія фарміраванні як вайсковыя, гэтак і нерэгулярныя, — якія вырашылі супраціўляцца. На шчасце, зараз падаецца, што гэтая фаза пачынае набліжацца да канца. Потым наступная фаза для амерыканскіх і кааліцыйных вайскоўцаў будзе ўсё больш канцэнтравацца на забеспячэнні стабільных умоў у межах Ірака — скончыць марадзёрства, стварыць умовы, у якіх гуманітарная дапамога і пастаўкі могуць ісці ў тыя рэгіёны, дзе яны патрэбныя. І гэта — цяперашні прыярытэт, але, я думаю, як толькі сітуацыя будзе стабілізаваная, будуць магчымасці паглядзець на іншыя пытанні. Адным з іх будзе больш накіраваны пошук зброі масавага знішчэння. Але, я думаю, што іншым прыярытэтам будзе — зразумець, якія сістэмы зброі Ірак змог набыць на працягу апошніх 12 гадоў, калі ён знаходзіўся пад эмбарга, усталяваным Радай Бяспекі ААН. Калі мы знойдзем гэтую зброю, мы **можам пачаць задаваць некаторым краінам некаторыя вострыя пытанні**".*

Пайфер лічыць выдумкай меркаванне пра існаванне нейкага "чорнага спісу" краін для ЗША, якія могуць паўтарыць лёс Афганістана і Ірака. "Не маюць сэнсу разважанні на тэму, хто можа стаць наступнай мішэнню ЗША пасля Садама Хусейна, — лічыць амерыканскі дыпламат. — Ніякага спісу не існуе. Ірак унікален у гэтым сэнсе. Сітуацыя ў Іраку не была падобная на іншыя краіны".

**Алесь СІЛІЧ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

ПОДРОБНОСТИ

# Священник Спасюк ищет спонсоров для восстановления Храма

*В прошлом месяце средства массовой информации сообщили, что церковнослужитель из поселка Пограничный Берестовицкого района Иван Спасюк эмигрировал в Соединенные Штаты и попросил там политического убежища. В "Народную волю", которая подробно освещала многолетнюю борьбу этого священника и прихожан за право молиться в белорусской церкви и на белорусском языке, стали обращаться читатели с просьбой прояснить ситуацию.*



Редакция связалась со священником. Отец Иван пояснил, что в США находится по церковным делам. Напомнил, что является управляющим делами Белорусской православной автокефальной церкви, приходы которой белорусские власти отказываются регистрировать. Ни по старому, ни по новому закону "О свободе совести и религиозных организациях". По мнению Ивана Спасюка, свобода совести в Беларуси существует только для православной церкви Московского патриархата. На пути остальных православных возводятся непреодолимые препятствия.

В связи с категорическим отказом белорусских властей регистрировать приходы автокефальной (независимой от Москвы) православной церкви священник Спасюк решает в настоящее время вопрос о регистрации приходов за границей. Одновременно ищет спонсоров для восстановления церкви, разрушенной прошлым летом в Берестовицком районе.

Возвращается отец Иван из США в следующем месяце: на 14 мая с.г. у него билет на самолет.

**Валерий ЩУКИН.**

**На снимке:** *руины варварски разрушенного в августе 2002 года на Гродненщине Храма Святой Евфросиньи Полоцкой.*

ЧУЛІ?

## Душа баліць і сэрца шчыміць

Душа баліць і сэрца шчыміць, калі знаёмішся з вынікамі даследавання дамашніх гаспадарак, ці прасцей — сем'яў, за мінулы год. Вельмі нізкія даходы, ніжэйшыя за бюджэт пражытачнага мінімуму маюць 952 тысячы гаспадарак, ці 24,7 працэнта. У іх пражываюць 3 мільёны чалавек, або 30,5 працэнта ўсяго насельніцтва.

Словам, амаль трэць людзей мае даходы меншыя, чым прадугледжана бюджэтам пражытачнага мінімуму. А той жа бюджэт такі, што, калі жыць на яго, дык хутка працягнеш ногі. Так што ў вялікай беднасці жыве кожная чацвёртая сям'я.

Пагоршылася структура расходаў насельніцтва. Доля расходаў на харчаванне зменшылася з 56,1 працэнта ў 2001 годзе да 52,8 працэнта летась. Значна выраслі траты на аплату камунальных паслуг. Яны падвоіліся. З-за іх людзі і вымушаны меней есці. Асабліва пагоршылася становішча сем'яў, якія маюць дзяцей. Менавіта яны папаўняюць армію кепска забяспечаных.

Вось такія яны, беларускія сацыяльныя стандарты.

**Алесь ДРАБЧУК.**

## Перамогі Руслана

Клуб абаронцы беларускай хакейнай зборнай Руслана Салея "Анахайм Майці Дакс" стаў аўтарам галоўнай сенсацыі першага раунда плэй-оф Кубка Стэнлі. "Магутныя качкі" ўсухую абгулялі цяперашніх уладальнікаў прэстыжнага трафею "Дэтройт Рэд Уінгз" — 4:0.

Усе перамогі былі атрыманыя з мінімальным лікам — 2:1 (10 красавіка), 3:2 (12 красавіка), 2:1 (14 красавіка) і 3:2 (16 красавіка). У апошняй сустрэчы "Анахайм" закінуў вырашальную шайбу на 7-й хвіліне дадатковага часу. Р.Салей браў удзел ва ўсіх паядынках.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Падарунак канадцаў

Гарадоцкі раён Віцебшчыны не ўваходзіць у зону, якая пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы. Тым не менш заакіянская дабрачынная арганізацыя "Канада — дапамога ахвярам Чарнобыля" палічыла, што жыхары Гарадоччыны таксама вартыя гуманітарнай падтрымкі, бо з'яўляюцца ахвярамі беднасці, пакутуюць ад дзяржаўнай няўвагі.

Асабліва засмуціў канадцаў стан аховы здароўя ў раёне. Ужо шмат год тут не ўдаецца завяршыць будаўніцтва бальніцы ў Гарадку, бо на гэта выдзяляецца мала грошай.

З Канады былі прывезены пральныя сродкі, вітаміны, медыкаменты і сучаснае абсталяванне, у тым ліку — апарат для разгорнутага аналізу крыві коштам у 60 тысяч долараў.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

РЕЗОННЫЙ ВОПРОС

## Так кто же избрал депутатов: народ или Лукашенко?

На совещании по вопросам внешней и внутренней политики глава государства подчеркнул, что *"власть, хорошая и плохая, избрана народом, и последние выборы в местные Советы депутатов подтвердили пристрастия граждан...".*

Выступая с посланием к парламенту 23 апреля 2002 года, Александр Лукашенко отметил: *"Мы же выиграли не за счет предвыборных технологий, не за счет пиар-акций и прочей суеты, не за счет денег... а за счет многолетней работы на благо людей. Избиратели, простые люди, поддержали курс, который отвечает их интересам...".*

И вот на днях, выступая в парламенте с очередным посланием Национальному собранию, Александр Лукашенко признался: *"Я не боюсь этого публично сказать. И многие здесь знают, как президент радел за каждого депутата, фактически на сто процентов боролся, чтобы они попали в этот парламент".*

Поняли, "сто процентов" сделано Александром Григорьевичем по комплектованию парламента. Вот вам и честные демократические выборы! Вот так "простые люди поддержали курс"!

## Газета «Местное время» выйграла суд у Мінскага аблвыканкама

16 красавіка Мінскі гарадскі Гаспадарчы суд часткова задаволіў зыск ТАА "Местное время-пресс" да Мінскага абласнога выканаўчага камітэта, прызнаўшы несапраўдным рашэнне аблвыканкама аб адмене рэгістрацыі прадпрыемства.

Істцы патрабавалі адмяніць рашэнне Мінскага аблвыканкама, які 21 лістапада мінулага года скасаваў рэгістрацыю ТАА "Местное время-пресс", а таксама дамагаліся ад Мінаблвыканкама кампенсацыі матэрыяльных страт прадпрыемства ў памеры 2 300 000 беларускіх рублёў.

"Паколькі судовыя рашэнні па гэтай катэгорыі спраў уступаюць у сілу з моманту іх абвяшчэння, дэ-факта прадпрыемства "МВ-пресс" ужо існуе", — заявіў у інтэрв'ю прэс-службе БАЖ юрыст з боку істцоў П.Коктыш. "Дэ-юрэ Мінаблвыканкам найбліжэйшым часам павінен аднавіць нашу рэгістрацыю ў Адзіным дзяржаўным рэгістры юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў Беларусі".

Суд павінен падрыхтаваць матывавальную частку свайго рашэння, якую ТАА накіруе ў Міністэрства інфармацыі. Пасля гэтага Міністэрства павінна будзе аднавіць пасведчанне аб рэгістрацыі газеты "Местное время".

На працягу 10 дзён Мінаблвыканкам (інтарэсы якога прадстаўляў у судзе юрыст А.Лагачоў) мае права абскардзіць рашэнне Мінскага гарадскога суда ў адпаведнасці з заканадаўствам.

ЭХО

# Игры на костях

*Публикация статьи "Хоккей на костях" ("Народная воля", №65), рассказывающей о реконструкции стадиона "Неман", построенного на месте старого еврейского кладбища, вызвала большой общественный резонанс. Еврейская община Гродно уже обратилась с соответствующим заявлением в прокуратуру Гродненской области.*



Напомним, что земля со стадиона вперемешку с человеческими костями была высыпана в овраги по улицам Новой и Чернышевского. Местные власти, по решению которых улицы оказались усеяны человеческими костями, продолжают хранить гробовое молчание.

"Мы хотим получить ответ о законности происходящего", — пояснил председатель еврейской общины Михаил Корж. Кроме этого, он обратился в Комитет по делам религий и национальностей Совета министров и соответствующую комиссию Национального собрания Республики Беларусь. Гродненские евреи продолжают надеяться, что глумление над человеческими останками будет остановлено и все найденные кости будут захоронены.

После выхода "Народной воли" к Дмитрию Кузовкову, который, напомним, нашел на мусорке возле своего дома 14 человеческих черепов, пришел странный человек, который представился работником строительного управления и, показав фотографию Дмитрия в нашей газете, потребовал, чтобы черепа были переданы ему. "Он не представил никакого удостоверения и вообще вел себя странно. Не знаю, зачем ему эти черепа", — говорит Дмитрий.

Свидетелем беседы стал независимый гродненский кинодокументалист Вячеслав Добин. "Этого человека я неоднократно видел на демонстрациях оппозиции и думаю, что это сотрудник спецслужб", — говорит Вячеслав Добин. Увидев телекамеру, непрошеный гость быстро ретировался. Дмитрий Кузовков заявил, что готов передать останки представителю еврейской общины. "Нужно просто их захоронить по-человечески, я же не могу отдать это непонятно кому, чтобы потом они опять на мусорке валялись", — говорит Дмитрий.

**Андрей ОДЛЯНИЦКИЙ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Концы в воду?

*Судьба экс-министра МВД Юрия Захаренко: кого она волнует, а кто хотел бы поставить точку, не выяснив истинных причин исчезновения человека?*

**Со страниц независимой прессы не исчезают публикации о ходе расследования уголовных дел по факту исчезновения Юрия Захаренко, Виктора Гончара, Анатолия Красовского и Дмитрия Завадского. Точнее — о приостановлении расследования.**

**В связи с этим корреспондент "Народной воли" попросил жену Ю.Захаренко прокомментировать действия правоохранительных органов.**

**— Ольга Борисовна, скажите, Вы согласны с решением прокуратуры города Минска о приостановлении предварительного расследования? Какими будут Ваши дальнейшие действия, будете ли это постановление обжаловать?**

— Прошло немало времени с того дня, как прокуратура города начала расследовать уголовное дело по установлению обстоятельств исчезновения моего мужа. К сожалению, до сих пор мне ничего не известно о судьбе мужа. От своего представителя Олега Волчека я лишь узнала, что прокуратура города Минска отказывается предоставить ему постановление о приостановлении предварительного расследования. Как ни странно, но даже суду было отказано в предоставлении данного документа.

**— Но Вы же можете обжаловать...**

— Как я могу что-либо обжаловать, если следствие не представляет каких-либо заключений по делу. Вообще, я чувствую, что в этом постановлении есть что-то важное, поэтому они боятся дать мне законный документ, который показывает реально, чем все эти три года занимались сотрудники прокуратуры, искали они реально или просто все тормозили, чтобы мы не узнали никогда о судьбе Юрия Захаренко. Я возмущена поведением следователя Чумаченко по отношению к моему представителю Олегу Волчеку, в связи с чем направила письмо прокурору города Минска, чтобы тот отстранил от дела такого следователя, но прокурор города Минска не принимает во внимание мои просьбы. Так что я не верю, что эти люди смогут что-либо сделать, поскольку у них нет мужества и воли. Я надеюсь, что смогу получить информацию о судьбе моего мужа от тех людей, с кем Юра работал, или от тех, кто что-либо знает об обстоятельствах его исчезновения...

**— В январе нынешнего года на одной из пресс-конференций по пропавшим политикам Ваш представитель Олег Волчек сказал, что прокуратура города Минска хочет признать Вашим представителем Вашего зятя Вячеслава Артемова?**

— Для меня это было полной неожиданностью. Действительно, Волчек мне сказал, что во время его разговора с прокурором Синяком стало известно, что моим представителем претендует быть Вячеслав Артемов. Я хочу сразу заявить, что вот уже полгода, как моя дочь Елена разведена с Вячеславом. Мы ему никаких поручений по этому поводу не давали, поскольку этот человек за это время ни разу не помог нашей семье. Интересы моей семьи может представлять только Олег Волчек.

**— Есть информация, что не так давно на Вас "вышли" несколько сотрудников милиции, которые предоставили какие-то документы по делу Вашего мужа...**

— Мне позвонил мужчина и сказал, что они все сделали, чтобы установить обстоятельства исчезновения моего мужа, но прокуроры не спешили возбуждать уголовное дело. Он подтвердил, что моего мужа похитили неизвестные люди 7 мая 1999 года в 21 час 50 минут на улице Могилевской, когда он возвращался домой. В подтверждение этих слов через несколько дней мне передали некоторые материалы из уголовного дела. Я передала ксерокопии своему представителю, чтобы он их изучил, поэтому лучше, если он сам о них расскажет. Я очень благодарна тем людям, которые не остаются равнодушными, и буду всегда ждать, что кто-то еще наберется мужества и расскажет нам всю правду.

Недавно ко мне обратился неизвестный человек и сказал, что готов посодействовать в расследовании деталей исчезновения Юрия, он готов быть спонсором, если кто-то сможет представить конкретную информацию об обстоятельствах исчезновения моего мужа. Он не назвался, но сказал, что "этот человек для меня когда-то многое сделал и поэтому я перед ним в долгу". Я буду ждать любую информацию...

*Когда в редакцию "Народной воли" заглянул Олег Волчек, я не преминул продолжить разговор по данной теме.*

**— Олег Константинович, пожалуйста, расскажите, что содержится в копиях тех материалов уголовного дела, которые Вам передала Ольга Борисовна?**

— Согласно информации, поступившей от неизвестного человека, который, чувствуется, занимался оперативным сбором сведений по установлению обстоятельств исчезновения Юрия Захаренко, можно сделать ряд выводов. И все они указывают, что первоначально розыск пропавшего велся силами МВД достаточно квалифицированно и настойчиво, но, к сожалению, негласно и без должной поддержки органами прокуратуры.

8 мая 1999 года в Октябрьский РУВД г. Минска с заявлением о безвестном исчезновении отца, Юрия Николаевича Захаренко, обратилась его дочь Елена Артемова. 9 мая 1999 года было заведено розыскное дело. Одновременно пропавший был объявлен в республиканский розыск. Данное дело с первого дня стало расследоваться не силами РУВД Октябрьского района г. Минска, а непосредственно ГУВД Мингорисполкома. Была создана оперативно-розыскная группа в составе заместителя начальника УУР ГУВД Мингорисполкома С.В.Шарипо, начальника службы УУР ГУВД Мингорисполкома В.В.Федоренко, начальника СКМ Октябрьского РУВД г.Минска В.Л.Петлицкого. В эту группу вошел еще ряд профессиональных сыщиков ГУВД Мингорисполкома.

Исходя из этого документа можно сделать вывод, что исчезновение экс-министра МВД Юрия Захаренко было с первого дня под контролем основного управления, занимающегося розыском людей.

О проведенной розыском работе можно утвердительно сказать, что сыщики уже через десять дней после исчезновения Юрия Захаренко поставили вопрос перед Генеральным прокурором Республики Беларусь Олегом Божелко и прокурором города Минска Николаем Куприяновым о возбуждении уголовного преступления по ст. 101 УК РБ, мотивируя тем, что Юрий Захаренко стал жертвой преступления.

Так, 14.05.1999 года заместитель министра МВД РБ М.Д. Удовиков сообщил Генеральному прокурору, что в материалах розыскного дела имеются обстоятельства, указывающие на тот факт, что Юрий Захаренко мог стать жертвой преступления. Аналогичное письмо поступило на имя прокурора города Минска от начальника криминальной милиции Н.И.Лопатика. Главные сыщики страны поняли, что необходимо срочно возбуждать уголовное дело и идти следственным путем в установлении обстоятельств исчезновения Юрия Захаренко.

**— Следовательно, основания у оперативного следствия были весомые, чтобы через 7 дней просить прокуроров возбудить уголовное дело по факту насильственного похищения экс-министра МВД РБ?**

— Да. На тот момент сыщики обладали информацией не только от анонимных свидетелей, но и от реальных людей, которые видели непосредственное похищение Юрия Захаренко.

О том, что силами розыска была проделана большая работа, можно судить по письму на имя начальника Службы государственного протокола Министерства иностранных дел Республики Беларусь, которое направил заместитель министра МВД М.Д.Удовиков.

В письме указывается перечень мероприятий, проведенных уголовным розыском. Сыщики установили всех лиц, кто каким-то образом контактировал с Юрием Захаренко в последние дни и месяцы до исчезновения. В первые дни поиска были направлены 50 человек из воинской части и 4 служебно-розыскных собаки. Были обследованы все возможные маршруты передвижения Юрия Захаренко по направлению к его дому. Проведены опросы жильцов близлежащих домов (это отражено в целом томе рапортов участковых милиционеров и оперативных работников). Были проверены все телефонные звонки как с домашнего телефона, так и с сотового. Сыщики проверили все морги, больницы и другие медучреждения по всей Беларуси. Практически каждый территориальный орган внутренних дел получил специальное задание по розыску Юрия Захаренко. Были информированы Комитет пограничных войск, Таможенный комитет и КГБ РБ. Проверялась база данных продажи авиабилетов и билетов на железнодорожный транспорт. Однако проделанная работа положительного результата не дала.

Оперативные службы проверяли всю информацию, которая публиковалась в прессе, а также поступающие в милицию письма по поводу обстоятельств исчезновения Юрия Захаренко. Проверялся собственник грузового автомобиля ЗИЛ-131, про который часто писали в СМИ. Якобы этот грузовик проводил наблюдение за квартирой Юрия Захаренко. Владельцем оказался военный пенсионер. Этот грузовик был обследован, но никаких признаков, что там была установлена спецаппаратура, не обнаружено. Эта машина им не эксплуатировалась, так как была практически в нерабочем состоянии.

Немаловажной в этой работе была и озабоченность работников МВД судьбой бывшего министра, некая солидарность и убежденность в том, что Юрий Захаренко стал жертвой преступления. Очевидно, что эта убежденность основана не только на интуиции сыщиков.

8 сентября 1999 года состоялось оперативное совещание в МВД Республики Беларусь, где председательствовал министр Ю.Л.Сиваков, а также присутствовали заместители министра Ю.Д.Радюкевич, М.Д.Удовиков, Л.В.Глуховский, начальник Главного управления криминальной милиции Н.И.Лопатик, заместитель начальника управления уголовного розыска Г.М.Ганчук, начальник отделения розыскной работы управления уголовного розыска С.З.Векша, старший референт министра В.В.Клементьева. На этом совещании оперативные службы отчитывались о проведенной работе по установлению обстоятельств исчезновения Ю.Н.Захаренко. Н.И.Лопатик еще раз обратил внимание коллег на то, что необходимо вновь поставить вопрос перед Прокуратурой Республики Беларусь о возбуждении уголовного дела по ст.101 УК РБ, поскольку проделана большая работа, но проверить все версии в рамках розыскного дела невозможно.

Итогом совещания явилось новое обращение на имя Генерального прокурора с просьбой возбудить уголовное дело по факту насильственного исчезновения экс-министра МВД Юрия Захаренко.

13 сентября 1999 года министр МВД Ю.Л.Сиваков обратился с ходатайством на имя Генерального прокурора Олега Божелко. В ходатайстве указывалось, что в многочисленных публикациях в СМИ, обращениях в МВД различных общественных организаций выражается озабоченность в связи с исчезновением Юрия Захаренко, за развитием событий следят как внутри страны, так и за ее пределами. Министр просит возбудить дело, поскольку только следственным путем можно отработать ту или иную версию.

16 сентября 1999 года исчезли Виктор Гончар и Анатолий Красовский. 17 сентября 1999 года Прокуратурой Республики Беларусь возбуждено уголовное дело.

**— Скажите, какие можно сделать выводы исходя из всех этих документов, о которых Вы рассказали?**

— Если проанализировать данную оперативную информацию, можно сделать главный вывод: оперативные службы проделали большую работу. Но почему никто из чиновников не дал хоть поверхностную информацию о проделанной работе? Почему Юрия Захаренко не показывали по телевидению, хотя такая практика постоянно делается розыскными службами, когда пропадает человек? Почему "медлила" прокуратура? Видно, что кто-то держал это дело на контроле. При той работе, что сделал розыск, уголовное дело нужно было возбуждать еще 14 мая 1999 года. Возможно, если бы тогда началась активная следственная работа, то, может, и не было других исчезновений. Из этих материалов видно, что "наружной" слежки со стороны МВД за Захаренко в тот день не велось. Похищали Юрия Захаренко, вероятнее всего, те же, кто и Виктора Гончара с Анатолием Красовским, поскольку почерк похищения одинаков.

Чувствуется, людям в милицейской форме не безразлична судьба экс-министра МВД Юрия Николаевича Захаренко. А поэтому и было вновь обращение к родственникам Юрия Захаренко, что, мол, мы делали все, чтобы установить обстоятельства похищения Юрия Захаренко, но...

Из интервью Олега Алкаева известно, что многое мог бы сообщить об этом деле Иван Иванович Бранчель. Но он не хочет подтверждать то, что сказал Алкаев. Но и не опровергает.

Кто же расскажет настоящую правду об исчезнувших?

**Вопросы задавал Федор КУПРИЯНОВ.**

*Юрий Захаренко (в центре) на одном из уличных шествий. Справа от него — Геннадий Карпенко.*

Возвращается материал по факту исчезновения Захаренко Ю.Н. для ... дополнительной проверки.

ПУЛЬС

## Дзве беларускі — найлепшыя прадпрымальніцы

Дзве беларускі ганараваныя тытулам "Найлепшая жанчына-прадпрымальнік 2002 года" па выніках Другога форуму жанчын-прадпрымальнікаў Еўрапейскай эканамічнай камісіі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (UNECE).

Дырэктар малога прадпрыемства "Палярыс" (Салігорск) **Таццяна СТАРАВОЙТ** дыпламаваная ў катэгорыі "Найлепшае новае прадпрыемства". "Палярыс" — шматгаліновая кампанія, якая ўключае ў сябе аддзел, што займаецца экспартам, гандлёвы дом "Эльза", сетка міні-кавярняў, швейнае атэлье і турыстычнае агенцтва.

Дырэктар бізнес-інкубатара і Цэнтра падтрымкі малога бізнесу ў **Мазыры Зоя ЗМУШКО** ўзнагароджана дыпломам у намінацыі "Найлепшы прадпрымальнік у галіне інфармацыйных тэхналогій". Цэнтр падтрымкі малога бізнесу займаецца падрыхтоўкай рознапланавай інфармацыі, кансультаваннем прадпрымальнікаў па пытаннях падаткаабкладання, гандлёвых аперацый, пошуку партнёраў па бізнесе і інвестараў, адкрыцця новых кампаній.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Просяць павысіць зарплату

Арганізацыя Свабоднага прафсаюза Беларускага ААТ "Полацк-Шкловалакно" выступіла са зваротам да прэзідэнта канцэрна "Белнафтахім" Івана Бамбізы і генеральнага дырэктара свайго прадпрыемства Браніслава Сівога. Актывісты СПБ лічаць неабходным павысіць зарплату работнікам прадпрыемства на 50 працэнтаў. Такі захад, зазначаецца ў звароце, прадыктаваны ростам спажывецкіх цэн на працягу 2002—2003 гадоў, які значна перавышае рост зарплаты, і рэзкім павышэннем тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі.

Пачаўся збор подпісаў работнікаў прадпрыемства пад тэкстам звароту.

Зараз на гэтым найбуйнейшым полацкім прадпрыемстве працуюць каля 4,5 тысячы чалавек.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Балгарыя чакае беларускіх турыстаў

У чарговым турыстычным сезоне, які стартуе ўжо ў наступным месяцы, Балгарыя чакае прыкладна двухразовага павелічэння колькасці беларускіх турыстаў. Пра гэта 16 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску заявіў часовы паверані ў справах Рэспублікі Балгарыя ў Беларусі Эміл Самарджыеў.

Кошт двухразовай візы (што дазваляе перамяшчэнне мяжы туды-назад) для "арганізаваных" турыстаў будзе складаць 20 еўра, для "неарганізаваных" — 50 еўра. Бясплатна візу па-ранейшаму змогуць атрымаць дзеці да 16 гадоў, дарослыя пасля 60 гадоў і грамадзяне, якія пацярпелі ад наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Сярэдні тэрмін афармлення дакументаў — 5 рабочых дзён.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Скарацілі тэрмін фестывалю ў Міры

У 24 мільёны рублёў абыдзецца фестываль "Мірскі замак", які пройдзе 31 мая ў гарадскім пасёлку Мір Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці.

У рамках фестывалю выступяць камерныя калектывы Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла, Дзяржаўны ансамбль танца, а таксама гродзенская капэла і абласны драматычны тэатр.

Як паведаміў БелаПАН галоўны спецыяліст абласнога ўпраўлення культуры Сяргей Давыдзік, спачатку фестываль планаваўся як двухдзённы, аднак у мэтах эканоміі яго правядзенне скарацілі да аднаго дня.

**Ірына ЧАРНЯЎКА, БелаПАН.**

## «Velcom» укладзе яшчэ 75 мільёнаў долараў

Да канца гэтага года "Velcom" укладзе ў развіццё сваёй сеткі сотавай сувязі каля 75 мільёнаў долараў ЗША інвестыцый з прыцягнутых і ўласных сродкаў.

Генеральны дырэктар кампаніі Юрый Акімаў заявіў, што "Velcom" відавочна можа называцца нацыянальным аператарам па прадастаўленні паслуг сотавай сувязі. Колькасць абанентаў кампаніі за апошні год вырасла амаль у тры разы і зараз складае больш за 470 тысяч. Доля "Velcom" на рынку сотавай сувязі Беларусі сёння дасягае 81 працэнта. Згодна з агучанымі на прэс-канферэнцыі планамі, да канца года абаненцкая база "Velcom" павінна вырасці да 700 тысяч абанентаў.

Не выключана, што кошт прадастаўляемых паслуг будзе паступова зніжацца, але вялікіх змяненняў у плане перагляду дзеючых тарыфаў у бок іх памяншэння ў найбліжэйшы час не прадбачыцца.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Прамая дапамога з Францыі

**Учора паехала з Беларусі Чацвёртая гуманітарная місія Вышэйшых бізнес-школ Францыі, якая прывезла каля 50 тон гуманітарнага грузу.**

Хлопцы і дзяўчаты з Францыі шукаюць спонсараў для пакупкі медыцынскага абсталявання і медыкаментаў, аргтэхнікі і адзення. Арганізоўваюцца дыскатэкі ды вечарыны, прыбытак ад якіх ідзе на пакупку гуманітарнай дапамогі. Пасля студэнты самі адвозяць груз у краіну, якой ён неабходны.

З беларускага боку студэнтаў кожны год сустракае Міжнародная дабрачынная грамадская арганізацыя "У дапамогу дзецям-сіротам" і французскае пасольства, якія знаходзяць тых, каму патрэбна дапамога. У гэтым годзе яе прывезлі ў дзіцячыя дамы Гомеля, Мазыра, Пінска, Мінскай вобласці, Капаткевічаў. Груз таксама атрымалі бальніцы, школы, Інстытут радыяцыйнай медыцыны "Белрад", дырэктар якога прафесар Васіль Несцярэнка атрымаў сімвалічны дар за сваю працу.

Вельмі ўдзячныя арганізатары акцыі Міністэрству ўнутраных спраў, якое забяспечвала суправаджэнне грузу і студэнтаў увесь час, пакуль развазілася дапамога. Плануюць студэнты прыехаць і на наступны год.

**Павел АРЦЮШКЕВІЧ.**

ПОГЛЯД

# Даўно ніжэй калена

*Як вядома, А.Лукашэнка паабяцаў стварыць у Беларусі стройную сістэму абароны інтарэсаў кожнага чалавека. Маўляў, дзеля гэтай мэты не пашкадую астатку палітычнага жыцця ў якасці прэзідэнта.*

Зразумела, узровень і, так бы мовіць, якасць сацыяльных патрэб у розных грамадствах розная, бо залежыць ад культурных традыцый, ад стану эканомікі. У Германіі памеры дапамогі па беспрацоўі дазваляюць чалавеку, які страціў працу, жыць прыстойна, не прадаваць аўтамабіль, не з'язджаць з кватэры, якая стала "не па кішэні", і нават адпачываць на звыклых курортах Грэцыі або Анталіі.

У Беларусі гэта ўспрымаецца як неверагодная раскоша. Нашы стандарты значна ніжэйшыя, таму і памеры той жа дапамогі беспрацоўнаму беларусу "сягаюць" у сярэднім аж да 10 долараў. Немец на такія грошы і дня не пражыў бы, ды і шараговаму беларусу складана. Але ж ён жыве на іх цэлы месяц. І не толькі не абураецца, не ідзе на мітынг пратэсту, а нават ухваляе ўладу, зрабіўшую яго жабраком.

Чытач, мусіць, памятае, як у лютым Лукашэнка "раздраконіў" свой урад нібыта за тое, што, падвысіўшы цэны на камунальныя ды іншыя паслугі, залішне залез у кішэні працоўных. Ацаніце гумар: увогуле ў чужую кішэню лезці можна, але сёе-тое ў ёй трэба пакідаць. Дык вось, каб пабачыць, што ў той кішэні яшчэ засталося, Лукашэнка даручыў Дзяржкантролю праверыць абгрунтаванасць цэнавай палітыкі ў сацыяльнай сферы, якую вызначаюць Міністэрства эканомікі, аблвыканкамы ды Мінгарвыканкам. Адразу заўважым, што кантралёры "накапалі" такіх фактаў, якія не папсуюць старонкі Кнігі Гінеса, а многія з іх ставяць пад сумнеў вывады экспертаў ААН пра адносна высокія паказчыкі ўзроўню чалавечага развіцця ў Беларусі.

Можа, нават і сам Лукашэнка гэтага не ведаў, але зараз, пасля азнаямлення са справаздачай Дзяржкантролю, будзе ведаць, што ў сельскіх населеных пунктах Капыльскага і Нараўлянскага раёнаў няма ніводнай цырульні, у Жабінкаўскім ды Кармянскім раёнах — ніводнай лазні або цырульні. З улікам таго, што ў вёсках лічаныя кватэры маюць адпаведныя выгоды, што спраўныя лазні ёсць прыкладна ў аднаго з дзесяці гаспадароў, няцяжка ўявіць узровень тамтэйшых сацыяльных стандартаў.

Безумоўна, што калі за адзінку вымярэння прыняць нагу, то гэтыя стандарты ўжо апусціліся не проста ніжэй, а значна ніжэй калена. Што ўвогуле тычыцца сельскай службы быту, то ёсць віды паслуг, якія немагчыма атрымаць не толькі ў раёнах, а нават у маштабах вобласці. Да іх адносяцца паслугі фатаграфіі, рамонту тэлерадыёапаратуры, складанай бытавой тэхнікі. Калі сапсуецца ў бабулькі тэлевізар, шанцаў пабачыць "дарагога прэзідэнта" на экране ў яе амаль не застанецца. Таму пасля кожнай "Панарамы" або "Наших новостей" бабульцы трэба развітвацца з Лукашэнкам, як пісаў паэт, навек. Бо назаўтра экран можа і не засвяціцца.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што ўрад пастаянна скарачае спіс абавязковых, гэтак званых "социально значимых" паслуг. Калі ў 1999 годзе ў яго ўваходзіла 13 пазіцый, то сёння засталося толькі тры. Цытуем даведку Дзяржкантролю на мове арыгіналу з захаваннем аўтарскага стылю: "услуги парикмахерских, кроме салонов, ритуальные услуги в пределах похоронного минимума и услуги бань".

Вядома, з гэтай нагоды можна смяяцца, можна плакаць, але, як аднойчы ўсклікнуў адзін на самай справе чэсны рускі пісьменнік: "Это мы, Господи!" Інакш кажучы: гэта менавіта той узровень, на якім зараз толькі і магчыма праводзіць усю гэтую "сацыяльную стандартызацыю". Таму трэба пагадзіцца з Лукашэнкам, які сцвярджае, што гэтыя стандарты будуць карэкціравацца, але ні ў якім разе не ў бок пагаршэння.

Бо горай ужо няма куды.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ.**

СЁННЯ — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ПОМНІКАЎ І ГІСТАРЫЧНЫХ МЯСЦІН

# Адродзім хараство!

З беларускіх школ і навучальных устаноў выкараняліся не толькі беларуская мова, гісторыя і культура, але і вера нашых продкаў. Шмат касцёлаў і цэркваў былі ўзарваны альбо перабудаваны да непазнавальнасці. Так, напрыклад, на знішчэнне полацкага касцёла і кляштара езуітаў "мэтавым накіраваннем" з бюджэту Віцебскай вобласці выдзелена 30 тысяч (тагачасных!) рублёў. У студзені 1964 г. касцёл св.Стэфана і частка калегіума былі ўзарваны. Ад выбуху ўтварылася каля 50 тысяч кубічных метраў "дабраякаснай цэглы і шчэбню, якія прадпрыемствамі і насельніцтвам на працягу года былі выкарыстаны на добраўпарадкаванне горада". "За хорошо выполненные работы по обрушению здания кадетского корпуса в городе Полоцке" ўдзельнікам акцыі была аб'яўлена падзяка, двое з іх былі ўзнагароджаны ганаровымі граматамі гарвыканкама. Сапраўдныя дакументы па рэалізацыі гэтага акта вандалізму, доўгі час надзейна схаваныя ад цікаўных у Полацкім архіве, нарэшце апублікаваны ў першым нумары гісторыка-літаратурнага часопіса "Полацкі летапісец".

За першыя гады адноўленай беларускай незалежнасці вернікам Беларусі былі аддадзены сотні бажніц і зараз ідзе іх аднаўленне. Ужо адбудаваны такія унікальныя помнікі нашага дойлідства, як, напрыклад, царква ў в. Сынкавічы, царква ў в. Мураванка, касцёл св.Варвары ў Віцебску, касцёл св.Андрэя ў Слоніме, брыгіцкі касцёл у Горадні, сабор Пятра і Паўла ў Гомелі.

Вярнуць помнікам іх першапачатковае аблічча, прыстасаваць пад сучасныя культурна-асветныя ўстановы можа толькі навукова абгрунтаваная рэстаўрацыя. Сучасныя прынцыпы рэстаўрацыі вымагаюць не толькі ўмацавання і адбудовы помнікаў архітэктуры, але і актыўнага ўключэння іх у архітэктурную кампазіцыю забудовы нашых гарадоў і вёсак, прыстасавання да новых культурна-эстэтычных патрэб. Калі толькі ўмацаваць ці нават адбудаваць архітэктурны помнік і не вырашыць праблему яго выкарыстання, ён застанецца нерухомым музейным экспанатам. Каб шэдэўр дойлідства ці сціплы прадстаўнік радавой гістарычнай гарадской забудовы паўнакроўна ўвайшоў у наша сённяшняе жыццё, трэба надаць яму новую, сучасную функцыю, якая б не толькі падкрэсліла яго гістарычна-мастацкую каштоўнасць, але і адзначыла, узмацніла яе, надала ёй новае эстэтычнае гучанне.

Такі прынцып атрымаў назву "рэвалярызацыя", што азначае ў дадзеным выпадку адраджэнне згубленай ідэйна-эстэтычнай каштоўнасці. Рэвалярызацыя ўключае цэлы комплекс работ па "ажыўленні" помніка: кансервацыю, навуковую рэстаўрацыю і актыўнае архітэктурнае прыстасаванне яго да сучасных патрэб грамадства. Менавіта прыстасаванне вызначае выбар сродкаў кансервацыі і рэстаўрацыі і, самае галоўнае, з'яўляецца сувязным звяном паміж мінулым і сучасным бытаваннем помніка. Канкрэтны прыклад — полацкая Сафія. Зараз яна складаецца з двух помнікаў — XI і XVIII стст., і кожны з іх мае высокую мастацкую каштоўнасць.

Аднačасова з адбудовай Сафіі ў Полацку пачалі аднаўляць помнік класіцызму — Богаяўленскую царкву, дзе была адкрыта гарадская мастацкая галерэя, часта тут гучала і класічная музыка. Зараз будынак вернуты праваслаўнай царкве.

Побач са славутай Спаса-Прэабражэнскай царквой у канцы XIX ст. быў узведзены велізарны гмах праваслаўнага сабора ў псеўдавізантыйскім стылі. Нягледзячы на высокі ўзровень будаўнічай тэхнікі, пабудова ўвабрала ў сябе ўсе адмоўныя рысы архітэктуры гэтага накірунку: эклектычнасць запазычаных формаў, сухую прамалёўку дэталяў, а яшчэ — адсутнасць пачуцця меры, поўную дысгармонію з больш ранейшымі будынкамі манастыра. Але помнік не перастае быць помнікам толькі таму, што ён не адпавядае сённяшняму мастацкаму густу. Пасля рэстаўрацыі ён зноў стаў дзеючым храмам.

Складаная сітуацыя стварылася падчас выканання праекта адбудовы магілёўскай ратушы. Моцна пацярпелая падчас апошняй вайны, але амаль адрамантаваная, у 1957 г. ратуша была знесена да падмуркаў. Паколькі ратуша з'яўлялася адной з асноўных гарадскіх дамінантаў, Магілёўскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб яе аднаўленні. Правёўшы археалагічныя раскопкі, у выніку якіх была ўдакладнена планіроўка будынка, і сабраўшы шматлікія пісьмовыя крыніцы, спецыялісты зрабілі праект аднаўлення будынка на канец XVIII ст., бо архіўных матэрыялаў на час пабудовы ратушы (1679 г.) не хапае. Тады было вырашана ў стылі класіцызму аднавіць толькі фасады, а інтэр'еры зрабіць сучаснымі. Такім чынам, будзе выканаваны макет у натуральную велічыню знішчанага некалі помніка, які зноў стане адной з асноўных вертыкалей Старога горада. Добра вызначана і ідэя прыстасавання помніка — тут будзе Палац шлюбаў. На жаль, адбудова Магілёўскай ратушы зацягнулася на няпэўны час, бо адсутнічаюць фінансавыя сродкі.

Актыўна аднаўляецца і шэдэўр беларускага мураванага дойлідства славуты Мірскі замак. У снежні 2000 г. ён быў уключаны ў Сусветны спіс культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКО.

**Алег ТРУСАЎ, кандыдат гістарычных навук.**

*Мірскі замак.*

Фота IREX/ProMedia.

